СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 8.26, 15.50, 7.24;
Віцебск — 8.23, 15.32, 7.09;
Магілёў — 8.15, 15.39, 7.24;
Гродна — 8.40, 16.07, 7.27;
Брэст — 8.32, 16.16, 7.49.
Гомель — 8.04, 15.45, 7.41;

МЕСЯЦ:
Маладзік 24 снежня.

ІМЯНІНЫ:
Ганны;
Зянона, Ганараты




# ЗВЯЗДА

22 СНЕЖНЯ 1992 г. аўторак, № 251 (22029)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 2 рублі




## РОЗГАЛАС

### МЕДПРЭПАРАТЫ: САЛОДКІЯ «ЛЕДЗЯНЦЫ», ЗДАЕЦЦА, СКОНЧЫЛІСЯ

З 17 снежня павялічыліся цэны на шэраг медпрэпаратаў. Гэта падзея выклікала вялікае нездавальненне чытачоў газеты старэйшага ўзросту (рэакцыя, згадзіцеся, апраўданая). З раніцы 18 снежня ў рэдакцыю «Звязды» званілі пенсіянеры, ветэраны і цікавіліся, няўжо аптэкі Беларусі пачалі самавольна падымаць кошт медпрэпаратаў.

— Што з намі робяць? — са слязамі ў голасе пыталася Вольга Трафімаўна, інвалід II групы, якая, на жаль, свайго прозвішча не назвала. — Упакоўка цытрамону, за якую раней я аддавала 50 капеек, цяпер абыходзіцца ў 3 рублі. Калі цана на цытрамон узляцела ў 6 разоў, дык што казаць пра аналгін, кошт якога павялічыўся больш чым у 10 разоў. Да падаражання за аналгін плаціла 2 рублі 50 капеек. Сёння ж у аптэцы прыйшлося выкласці 35 рублёў. Як цяпер жыць нам, пенсіянерам, інвалідам, калі і здароўе слабае, і кожны рубель на ўліку?

Што адказаць чытачу? Заспакоіць і паабяцаць: больш узлёту цэн на медпрэпараты не прадугледжваецца? Або нагадаць, што з 1 студзеня мінімальная зарплата будзе 3.000 рублёў?

— Да новага года цэны на медпрэпараты мяняцца не будуць,— гавораць у Дэпартаменце цэн Дзяржэканамплана. Прычым не будуць мяняцца на 180 назваў лекавых сродкаў, цэны на якія Міністэрства аховы здароўя ўзгадняла з дэпартаментам. У гэты пералік уваходзяць жыццёва неабходныя лекі, сродкі на якія выдаткоўваюцца з бюджэту Рэспублікі Беларусь. Астатнія медпрэпараты знаходзяцца на свабодных цэнах. Завод медпрэпаратаў не можа выраблящь усе лекі, патрэбныя насельніцтву, бо няма сыравіны. Натуральна, што многія медпрэпараты закупляюцца за мяжой, а тут нейкія абмежаванні для «фантазіі» цэн не ўстановіш.

Такім чынам, падстаў для поўнага расчаравання пакуль няма. Хаця «ледзянец», які прапанавалі жыхарам Беларусі (маюцца на ўвазе тыя 180 назваў лекавых сродкаў, цэны на якія да 1993 года не падымуцца), не такі ўжо і салодкі.

Больш прыемнай навіной для ўсіх з'явіцца пагадненне, якое ў пятніцу было падпісана паміж урадам і прафсаюзамі. Згодна з ім, у першым квартале 1993 года не будуць падымацца цэны на асноўныя віды хлеба і малако. Апошняя навіна, спадзяюся, зможа крыху падняць настрой пенсіянерам (ды і не толькі ім) пасля цэлага шэрагу падаражанняў.

Ігар ШЧУЧЭНКА.

### «ВЫРАТАВАННЕ» ВЫРАТУЕ?

ГОМЕЛЬ. 100 тысяч долараў ЗША і 1 млн. рублёў — такі ўклад Гомельскага аблвыканкома ў толькі што створаны ім жа пры Упраўленні аховы здароўя спецыяльны валютны і рублёвы фонд для цяжкахворых дзяцей Чарнобыля «Выратаванне».

За час, які прайшоў пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, у вобласці значна павялічылася колькасць хворых дзяцей, з рознымі паталагічнымі адхіленнямі. Справіцца з гэтай бядой вельмі цяжка: устарэлае медабсталяванне, адсутнасць неабходных лекаў... Лячэнне і адпачынак дзяцей за мяжой патрабуе значных валютных сродкаў, да таго ж у некаторых былых рэспубліках Савецкага Саюза таксама патрабуюць плату за лячэнне ў валюце. Вось і прынята рашэнне ў адказ на шматлікія звароты медыкаў, жыхароў Гомельшчыны аб стварэнні фонду «Выратаванне». Папаўняцца ён будзе за кошт адлічэнняў прамысловых прадпрыемстваў, арганізацый, камерцыйных структур.

### ГРОДЗЕНСКАГА ВУЧОНАГА БУДУЦЬ ВЕДАЦЬ НА МАРСЕ

ГРОДНА. Упершыню заслугі выкладчыка Гродзенскага ўніверсітэта адзначаны на прэстыжным узроўні Акадэміі касманаўтыкі ў Маскве. Гаворка ідзе аб прафесары А. І. Яроцкім, які распрацаваў унікальную канцэпцыю выжывання чалавека ва ўмовах працяглага касмічнага палёту. І не такой фантастычнай здаецца цяпер экспедыцыя на Марс, якая працягнецца каля 3 гадоў і ля вытокаў якой стаіць прафесар з беларускага горада Гродна. Аднак, здаецца, ужо не прафесар, бо Акадэмія касманаўтыкі ўдастоіла яго звання ганаровага акадэміка.

### СУСТРЭЧА Ў МІРСКІМ ЗАМКУ

У гарадскім пасёлку Мір 21 снежня адбылася сустрэча Старшыні Савета Міністраў Беларусі Вячаслава Кебіча, кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, творчых саюзаў рэспублікі з прадстаўнікамі інтэлігенцыі — вядомымі пісьменнікамі, мастакамі. Удзельнікі сустрэчы агледзелі замак, азнаёміліся з экспазіцыяй музея. Затым у Камінная зале адрэстаўрыраванай Паўночна-Заходняй вежы вядомага ўсяму свету помніка XV стагоддзя, адбыўся зацікаўлены абмен думкамі аб шляхах адраджэння нацыянальнай гісторыі і культуры, роднай мовы.

На сустрэчы выступіў Вячаслаў Кебіч.

БЕЛІНФАРМ.

### АДЗІН ПІШАМ—ДВА Ў ПАМЯЦІ

**Пасля таго, як дэпутаты Вярхоўнага Савета адмовілі ў прыняцці законапраекта аб стварэнні свабодных эканамічных зон на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікі Саўміна прапанавалі дэпутатам новыя праекты дакументаў.**

Адным з маштабных інвестыцыйных праектаў, здольных пераламаць не зусім дынамічную тэндэнцыю замежнага інвесціравання на тэрыторыі рэспублікі, спецыялісты лічаць пераўтварэнне Мінскага навукова-вытворчага аб'яднання «Цэнтр». Яно само можа стаць кампактнай індустрыяльнай зонай. Праект прадугледжвае ажыццявіць выхад на сусветны рынак тэхнікі і тэхналогій, распрацаваных гэтым аб'яднаннем. Ужо на першым этапе зона будзе налічваць да 20 тысяч сучасных рабочых месц. Для іх стварэння выкарыстаюць 2,5—3 мільярды долараў ЗША. Свой намер прыняць удзел у рэалізацыі гэтага праекта і яго фінансаванні выказалі многія буйнейшыя фірмы Злучаных Штатаў, сярод якіх група фірм, якую ўзначальвае кампанія «ДКМ індастрыа», фірмы Германіі, іншых дзяржаў Еўропы.

Эканамісты лічаць, што не менш перспектыўным будзе і праект, падрыхтаваны Навукова-даследчым эканамічным інстытутам Дзяржэканамплана, па якому свабодная эканамічная зона можа быць створана ў раёне аэрапорта «Мінск-2». Тут плануецца мець шэраг змешаных прадпрыемстваў высокіх тэхналогій, якія разам з вытворчасцю арганізуюць правядзенне навуковых даследаванняў, што дасць магчымасць абучаць беларускіх спецыялістаў навейшым спосабам вядзення гаспадаркі, выпускаць навукаёмістую прадукцыю і такія неабходныя тавары народнага спажывання.

БЕЛІНФАРМ.

### ЯШЧЭ АДЗІН ПРЫЗ ВІТАЛЮ ШЧЭРБУ

Мінчанін Віталь Шчэрба быў удастоены «Гран-пры» Акадэміі спорту Францыі — галоўнай узнагароды, якая штогод прысуджаецца гэтай арганізацыяй лепшым спартсменам свету.

БелаПАН.

БЕЛАРУСЬ — МАЛДОВА:

## Падпісаны дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве

— Нам трэба многае пераняць адзін у аднаго, бо беларусы і малдаване невялікія народы і нам неабходна вучыцца адзін у аднаго самастойна вырашаць вялікія пытанні, — сказаў Станіслаў Шушкевіч адразу пасля прызямлення ў Кішынёўскім аэрапорце ў час сустрэчы беларускай дэлегацыі, што прыбыла ў сталіцу Малдовы з афіцыяльным візітам у другой палавіне дня 20 снежня.

У састаў дэлегацыі Беларусі, якую ўзначальваў кіраўнік парламента нашай рэспублікі, уваходзілі міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, кіраўнікі пастаянных камісій Вярхоўнага Савета Беларусі Леанід Козік, Міхаіл Слямнёў, парламентарыі Уладзімір Заблоцкі, Іван Цярэшка, іншыя афіцыяльныя асобы.

У аэрапорце, упрыгожаным дзяржаўнымі сцягамі Беларусі і Малдовы, Станіслава Шушкевіча цёпла віталі прэзідэнт Малдовы Мірча Снегур, Старшыня Вярхоўнага Савета Аляксандру Машану і кіраўнік урада Малдовы Андрэй Сангелі. Дзяўчаты і хлопцы ў нацыянальных касцюмах уручылі высокім гасцям букеты кветак, паднеслі хлеб-соль. Прагучалі гімны Беларусі і Малдовы. Станіслаў Шушкевіч і Мірча Снегур прынялі рапарт начальніка ганаровай варты і абышлі строй воінаў.

У той жа вечар ад імя прэзідэнта Рэспублікі Малдова Мірчы Снегура была дадзена афіцыяльная вячэра ў гонар Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча.

Праграма панядзелка была даволі насычанай. Яна пачалася сустрэчай Станіслава Шушкевіча са старшынёй парламента Малдовы Аляксандру Машану. Яе працягам стала гутарка з членамі прэзідыума малдаўскага парламента. Затым на працягу гадзіны праходзіла сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі з прэзідэнтам Мірчам Снегурам.

Адразу ж пасля поўдня адбылося падпісанне Дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Малдова. Дагавор падводзіць палітычную і прававую базу пад разнабаковыя адносіны паміж дзвюма незалежнымі дзяржавамі, што дазволіць узняць гэтыя сувязі на новы ўзровень. На кароткай прэс-канферэнцыі, якая адбылася адразу пасля падпісання дагавора, Станіслаў Шушкевіч і Мірча Снегур выказалі ўзаемнае задавальненне вынікамі сустрэч і падпісаным дагаворам, які, на іх думку, адкрывае шырокія перспектывы для супрацоўніцтва, што ўжо мае вялікую гісторыю і традыцыі. У мэтах развіцця дагавора будзе падпісаны шэраг новых пагадненняў па пытаннях эканомікі, навукі, культуры. Беларускі бок прапанаваў таксама падрыхтаваць і падпісаць дакумент, які гарантаваў бы і абараняў правы беларусаў у Малдове і малдаван у Беларусі.

Вечарам у панядзелак беларуская дэлегацыя вярнулася ў Мінск.

БЕЛІНФАРМ.

## ГОЛЫЕ ФАКТ

**Мяшкі з рублямі, якія ў ходзе чэрвеньскай грашовай рэформы жыхары Эстоніі абмянялі на кроны, да гэтага часу ляжаць у падвалах банка Эстоніі. Паведамляючы пра гэта, агенцтва ЭТА адзначае, што ў эстонскіх банкіраў мелася дагаворанасць з Расіяй аб тым, што ўся гэта грашовая маса будзе адпраўлена ў Маскву, але толькі ва ўвязцы з вырашэннем пытання аб знешнім доўгу.**

Устаноўлены часовыя стаўкі на выдачу віз для тых, хто едзе ў Грузію. Разавая віза (да 60 дзён) будзе каштаваць 30 долараў ЗША, шматразовая — 90, транзітная — 15 долараў.

А вось каб уехаць у Латвію, візы пакуль не трэба. На граніцы прад'яўляецца толькі агульнаграмадзянскі пашпарт, куды ставіцца пячатка, якая дае права знаходзіцца ў дзяржаве 90 дзён.

**Пахіснуўся курс літоўскага талона ў адносінах да рубля. Калі нядаўна ён складаў 50:100, дык зараз —70:100. Афіцыяльна падзенне курса пакуль ніяк не каменціруецца. У Літве чакаюць вяртання рубля ва ўнутрырэспубліканскі абарот.**

## ДА ВЕДАМА ЎЛАДАЛЬНІКАЎ АБЛІГАЦЫЙ

Паводле звестак Мінфіна Беларусі, у большасці рэспублік былога Савецкага Саюза не вызначаны парадак выкупу каштоўных папер, выпушчаных раней СССР, у прыватнасці аблігацый мэтавай беспрацэнтнай пазыкі 1990 года на набыццё тавараў працяглага карыстання.

Рэспубліка Беларусь заключыла пагадненне з Расійскай Федэрацыяй аб механізме абслугоўвання і пагашэння ўнутранага доўгу былога СССР насельніцтву па каштоўных паперах. Аднак канкрэтныя размеры індэксацыі пры выкупе каштоўных папер агаворены не былі. Прыняцце рашэння аб індэксацыі кожнай з рэспублік паасобку выклікае нараканні ўладальнікаў указаных каштоўных папер, аб чым сведчаць шматлікія пісьмы грамадзян.

У бліжэйшы час прадугледжваецца разгледзець на ўзроўні кіраўнікоў урадаў дзяржаў — удзельніц СНД шматбаковае пагадненне аб парадку выкупу каштоўных папер былога СССР.

У сувязі з тым, што раней прынятай Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь пастановай ад 06.04.92 г. № 186 быў устаноўлены гранічны тэрмін выкупу аблігацый мэтавай беспрацэнтнай пазыкі (да 31 снежня гг.), Савет Міністраў пастановай ад 18.12.92 г. № 761 прыпыніў (да асаблівых указанняў урада) дзеянне данай пастановы. Такім чынам, уладальнікам мэтавых аблігацый беспрацэнтнай пазыкі на тавары народнага спажывання не трэба хвалявацца, калі яны не паспелі здаць ва ўстановы Ашчаднага банка такія каштоўныя паперы. Зрабіць гэта яны змогуць у наступным годзе. Няма прычыны для шкадаванняў і ў тых грамадзян, якія паспелі расстацца са сваімі аблігацыямі. Іх аблігацыі імянныя, захоўваюцца ва ўстановах ашчаднага банка, і ў выпадку прыняцця іншага рашэння будуць праведзены пераразлікі з насельніцтвам, якое здало аблігацыі.

МІНІСТЭРСТВА ФІНАНСАЎ.

ПАСТФАКТУМ

## АЛЬГІРДАС БРАЗАЎСКАС ПЕРАСЦЕРАГАЕ БЕЛАРУСЬ АД ЛІТОЎСКІХ ПАМЫЛАК

### ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА ВІЗІТУ Ў МІНСК ВЫКОНВАЮЧАГА АБАВЯЗКІ ПРЭЗІДЭНТА ЛІТВЫ

**Назіраючы за шляхам Літвы, якім яна ідзе ў Еўропу, мы можам не толькі выкарыстаць яе багаты станоўчы вопыт эканамічных і палітычных рэформ, але і ўсцерагчыся ад многіх памылак. Мяркую, гэта выснова—адна з галоўных сярод тых, што зрабілі вядучыя беларускія палітыкі пасля кароткага візіту Альгірдаса Бразаўскаса,— апошняга лідэра Літвы камуністычнай і другога па ліку лідэра Літвы дэмакратычнай.**

Наша паўночная суседка, пачынаючы з першых гадоў гарбачоўскай перабудовы, заўсёды імкнулася быць на некалькі крокаў наперадзе за іншых у пошуку шляхоў да дэмакратыі. Гэта прага волі і незалежнасці дорага ёй абыходзілася. За кожны глыток свабоды даводзілася плаціць самай высокай цаной.

Мы не спяшаліся ўслед за ёю па цаліку. На вуліцах Мінска не было танкаў, мы не хавалі загінуўшых на барыкадах... Гэта добра. Але не мелі і свайго жывога ланцуга Балтыйскага шляху; мы ,па вялікаму рахунку, не згуртавалі нацыю ў барацьбе за незалежнасць так, як гэта здолелі зрабіць літоўцы.

...Тэма мінулага міжволі прысутнічала ў гэтым візіце. Многія з тых беларускіх парламентарыяў, якія стоячы віталі ў зале Вярхоўнага Савета літоўскага лідэра, — напэўна, памятаюць яго па сумеснай партыйнай рабоце, па тых часах, калі дзве савецкія рэспублікі, а значыць, і дзве рэспубліканскія партарганізацыі, — супрацоўнічалі і спаборнічалі.

Альгірдас Бразаўскас не забыў пра тую пару. І, згадваючы пра яе на прэс-канферэнцыі, гаварыў без іроніі і асуджэння. І ўсё ж—глыбока памыляюцца тыя, хто разлічвае ўбачыць у сённяшнім старшыні Сейма выразныя рысы першага сакратара КПЛ. З камунізмам Бразаўскас, як і яго партыя,— паканчылі. Пра гэта в. а. Прэзідэнта Літвы яшчэ раз заявіў у Мінску, падкрэсліўшы сацыял - дэмакратычную накіраванасць цяперашняй Дэмакратычнай партыі працы і тое, што яе новыя ідэалы ўжо прызналі многія сацыял-дэмакратычныя партыі Еўропы.

Альгірдас Бразаўскас быў і застаецца гаспадарнікам у лепшым сэнсе слова, — нават заняўшы найвышэйшы дзяржаўны пост. Яго візіт на Беларусь —у найменшай ступені візіт суседскай ветлівасці. З трыбуны беларускага парламента ён не дэклараваў традыцыйныя ў такіх выпадках запэўніванні ў дружбе і добрасуседстве, а адразу выклаў канкрэтныя напрамкі эканамічнага супрацоўніцтва.

Абедзве нашы краіны ў моцнай залежнасці ад расійскіх сыравінных крыніц. Літва спадзяецца на тое, што Беларусь, якая пакуль што застаецца ў фаварытах Масквы і мае больш лёгкі доступ да расійскай нафты, пойдзе на рээкспарт энерганосьбітаў узамен на літоўскую электраэнергію. Акрамя таго, усе шляхі нашай паўночнай суседкі на поўдзень і ўсход вядуць праз Беларусь. Зацікаўленасць Літвы ў гэтых транзітных каналах намнога большая за тую, якую ўяўляюць для нас шляхі праз Літву. Затое сухапутная Беларусь з разлікам прыкідвае выгаднасць Клайпедскага порта для сваіх марскіх перавозак.

На сустрэчы з журналістамі Бразаўскас шмат гаварыў пра сельскагаспадарчыя праблемы. Кавалерыйская атака на калгасы і саўгасы закончылася ў Літве крахам той сістэмы, якая лічылася ледзь не ўзорнай у былым Саюзе. Сельскагаспадарчая вытворчасць упала напалавіну адносна той, што была пры калгасах.

— Эканоміка мае свае аб'ектыўныя законы і іх нельга ігнараваць, — заўважыў з гэтай нагоды Бразаўскас. — Мы выступалі за тое, каб прыпыніць гэты працэс. Менавіта таму нас і падтрымала на выбарах значная частка вясковага насельніцтва.

Адбітак нядаўніх перадвыбарных баталій, было прыкметна, дагэтуль сказваецца на эмацыянальным стане Альгірдаса Бразаўскаса. Ён шмат і ахвотна гаварыў пра цяперашнюю палітычную сітуацыю ў Літве, якая чакае новых — прэзідэнцкіх — выбараў, што адбудуцца 14 лютага наступнага года. Днямі новы літоўскі прэм'ер Браніславас Лубіс сфарміраваў кабінет міністраў. Цікава, што сярод 17 уладальнікаў міністэрскіх партфеляў членскія білеты ДППЛ маюць толькі трое. Нават законным чынам заваяваўшы ўладу ў краіне, партыя Бразаўскаса не імкнецца манапалізаваць яе. Наўрад ці гэта ўсяго толькі добра засвоены ўрок мінулага. Проста Бразаўскас імкнецца да згоды і стабільнасці.

Лідэр Літвы скептычна адгукнуўся аб перспектывах Садружнасці Незалежных Дзяржаў у яе цяперашнім выгля-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## Беларусь збірае сваіх сыноў і дачок

**19—20 снежня Мінск стаў месцам збору беларусаў блізкага замежжа. Гісторыя распарадзілася так, што замежжам стала не толькі Беласточчына, але і Прыбалтыка, Украіна, Малдова, Крым, Якуція. На ўсёй неабсяжнай тэрыторыі былога Саюза жывуць і працуюць мільёны нашых суродзічаў. Многія з іх, апынуўшыся ў чужым асяроддзі, асімілёваліся, забыліся на сваю родную мову. Але нямала і такіх, хто параненейшаму захоўвае культурныя традыцыі свайго народа, хоча адчуваць сябе беларусам, мець духоўную сувязь са сваёй Бацькаўшчынай, быць ёй карысным, спрыяць яе адраджэнню.**

На жаль, у адносінах да сваіх суайчыннікаў, што пражывалі за межамі Беларусі— у тых жа былых савецкіх рэспубліках, а таксама і на спрадвечных (этнічных) беларускіх землях, якія ў выніку палітычных гульняў належаць цяпер іншым дзяржавам, наша краіна праяўляла, можна сказаць, раўнадушнасць, быццам мачаха да чужых дзяцей.

І толькі ў апошні час такія адносіны сталі змяняцца. Сведчаннем гэтага і стаў Першы сход беларусаў блізкага замежжа. Трэба сказаць, што на заклік згуртавання «Бацькаўшчына», якое стала ініцыятарам склікання Сходу, дапамагчы сродкамі ў правядзенні гэтага мерапрыемства адгукнуліся перш за ўсё ўрадавыя структуры — міністэрствы адукацыі, інфармацыі, культуры, замежных і ўнутраных спраў, абароны, мытнага камітэта, а таксама беларускія фірмы «Амега» з Беласточчыны, «Беларускі шлях» з Рыгі, «Дайнова» з Мінска.

На Сход беларусаў прыбылі нашы суродзічы з самых аддаленых мясцін былога Саюза, нават з Якуціі. Больш за 200 чалавек — прадстаўнікоў беларускіх культурных таварыстваў змаглі нарэшце выйсці на трыбуну і расказаць, як ім жывецца, з якімі праблемамі даводзіцца сутыкацца, якімі яны бачаць у далейшым свае ўзаемаадносіны з радзімай.

Трэба адзначыць, што гаворка адбывалася не ў вузкім коле патрыётаў беларушчыны з інтэлігенцкага асяроддзя. Сход вітаў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. Ён звярнуўся да прысутных з такімі словамі:

— Я перакананы, што з нашым беларускім характарам, з нашым геапалітычным становішчам Беларусь зможа заняць дастойнае месца і ў Еўропе, і ў сусветнай супольнасці. Мяне вельмі і вельмі цешыць памяркоўнасць падыходаў кіраўніцтва «Бацькаўшчыны» ў адносінах да эміграцыі, да суайчыннікаў, што пражываюць за межамі сваёй краіны. А таксама тое, што на чале аб'яднання знаходзіцца чалавек, які з'яўляецца гонарам беларускай культуры. Васіль Быкаў будзе гарантам таго, што не будзе зроблены занадта рашучы ход, альбо ход назад, альбо не ў тым напрамку.

Праграма Сходу была пабудавана так, каб змаглі выступіць усе прыехаўшыя госці, а таксама кіраўнікі важнейшых дзяржаўных структур Беларусі. У зале пасяджэнняў было нямала вайскоўцаў. Выступіўшы перад прысутнымі старшыня БЗВ М. Статкевіч абмаляваў сітуацыю, у якой апынуліся беларусы, якія знаходзяцца цяпер у арміях іншых незалежных дзяржаў, а хацелі б служыць і абараняць інтарэсы сваёй дзяржавы.

У перапынках паміж пасяджэннямі адказнымі работнікамі міністэрстваў і ведамстваў былі праведзены кансультацыі для прадстаўнікоў беларускіх суполак па канкрэтных праблемах набыцця беларускага грамадзянства, уласнасці, іншых пытаннях.

Цікавым дакументам Сходу з'яўляецца праект канцэпцыі дзяржаўнай праграмы «Беларусы ў свеце». У ім, у прыватнасці, адзначаецца, што захаванне і ўмацаванне дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь разам з яе сацыяльна-эканамічным і нацыянальна-культурным абнаўленнем патрабуюць кардынальных перамен нашых адносін да беларускага замежжа. Ад колішняй палітыкі канфрантацыі з нашымі суродзічамі, якія аказаліся за межамі Беларусі і былога Саюза, поўнага ігнаравання іх нацыянальна-культурных інтарэсаў і пазбаўлення ўсякай маральнай, духоўнай і іншай падтрымкі з боку сваёй гістарычнай Айчыны, трэба пераходзіць да палітыкі ўсебаковага супрацоўніцтва.

**У бліжэйшых нумарах мы прапануем вашай увазе выступленні асобных удзельнікаў сходу і раскажам пра тое, як праходзіла прэс-канферэнцыя з нагоды I сходу беларусаў.**

Таццяна АНТОНАВА.
Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## ВЫСОКІЯ ГОСЦІ НА СВЯЦЕ ГІГАНТА ІНДУСТРЫІ

### ЧАМУ АЛЬГІРДАС БРАЗАЎСКАС ЗАТРЫМАЎСЯ НА ДЗЕНЬ У БЕЛАРУСІ

Банальная фраза «Жыццё ўносіць карэктывы» ў данай сітуацыі вельмі дарэчы. Візіт выконваючага абавязкі прэзідэнта Літвы А. Бразаўскаса быў разлічаны на дзень, аб чым і было аб'яўлена грамадскасці. Але яго праграму істотна падкарэкціравалі бабруйскія шыннікі, якія запрасілі першую асобу Літвы наведаць іх прадпрыемства і адсвяткаваць разам 20-годдзе з дня пуску Беларускага шыннага камбіната.

Падзея гэта значная, у нейкім сэнсе нават эпахальная ў эканамічным жыцці нашай рэспублікі. Магчыма, узніклі па ходу візіту яшчэ нейкія дадатковыя абставіны. Як бы там ні было, але А. Бразаўскас прыняў запрашэнне шыннікаў. Разам з ім у Бабруйск прыбыў Старшыня Савета Міністраў Беларусі В. Кебіч.

Высокія госці наведалі цэхі камбіната «Белшына». Гэта непрацяглая экскурсія зрабіла ўражанне на звычайна стрыманага А. Бразаўскаса: ён не хаваў свайго захаплення велізарнымі маштабамі камбіната, аб'ёмамі яго вытворчасці. Думаецца, гэта былі не дзяжурныя словы з нагоды юбілею. Бабруйскі камбінат — гігант, роўных якому яшчэ трэба пашукаць. Ва ўсякім разе большага ў Еўропе не знайсці.

Скажаце: ці варта ўжо так радавацца гэтаму ўвасабленню былой дзяржаўнай палітыкі гігантаманіі? Можа, і не варта, але і сумаваць таксама не трэба. А хутчэй — ганарыцца тым, што такое ўнікальнае прадпрыемства існуе і паспяхова развіваецца ў рэспубліцы. Вось некаторыя лічбы і факты. «Заводы «Белшыны» — гэта прадпрыемствы сучаснай тэхналогіі, высокай механізацыі і аўтаматызацыі вытворчых працэсаў. Зараз тут выпускаецца 26 тыпа-памераў шын агульнай колькасцю 5,1 млн. штук у год. На стадыі асваення яшчэ 10 новых мадыфікацый шын. У першым квартале 1993 года пачнуць выпускацца шыны для «Волгаў», некаторых відаў трактароў, «Ікарусаў», суперМАЗаў і г. д. А завод звышбуйнагабарытных шын з'яўляецца манапалістам па вырабу «абутку» для велізар-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

